Цана асобнага нумару 20 гр.

# НАРОД

Ворган Беларускага Сялянскага Саюзу.

Выходзе два разы ў месяц.

Падпіска на год . . . 4 зал.
„ паўгоду . . 2 „
„ на 3 месяцы . 1 20 гр.
Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі й Адміністрацыі: Вільня, Крывое Кола 21.

ЦАНА АБЕСТАК: Перад тэкстам 20 гр. сярод тэксту 25 гр. і на тэксьце 15 гр. за радок дробнага друку.

№ 1. Вільня, чацьвер 18 жніўня 1927 г. Год I.



## Ад Рэдакцыі.

Выдаючы першы нумар нашага часапісу, мы, згодна із звычаям і патрэбай, хочам сказаць некалькі слоў аб тым, як будзем весьці нашаю працу. Кірунак і спосаб працы „Народу" азначаецца праграмай і тактыкай Беларускага Сялянскага Саюзу, ворганам каторага наш часапіс ёсьць. Беларускі Сялянскі Саюз мае мэтаю ўсебаковае адраджэньне беларускага сялянства і ўсяго Беларускага Народу. Ад закладзінаў Бел. Сял. Саюзу ў 1922 г. ў Празе ішлі мы да свае мэты змацняючы душэўна наш народ, робячы яго адпарнейшым на ўсялякія хваробы й напады ягоных непрыяцелеў.

На жаль, сьветлая й далекавокая дзейнасьць Саюзу была пасьлей у краі зацемнена асабістаспэкулятыўнай і шкоднай „работай" Ярэмічавай і кумпанійкі ягонай. І толькі нядаўна, пасьля ачышчэньня Саюзу ад Ярэміча й Рагулі, ізноў забурліла ў ім чыстае сялянска-беларускае жыцьцё.

Маючы наўвеце (на ўвазе) нашаю вялікаю сьвятую ідэю, мы ў часапісе словам, як у арганізацыйнай і іншай дзейнасьці ўчынкам будзем і далей працаваці так, каб ад нашае працы народ усебакова крапчэў. Партыі існуюць ня дзеля таго, каб народ дзяліць, а дзеля таго, каб яго лепей зарганізаваць, абняўшы ўсе часьці ягоныя. Дзеля таго мы імкнёмся, каб пры быцьцю розных партыеў беларускіх стварыць суцэльны беларускі фронт, ськіраваны проці непрыяцелеў Беларускага Народу.

І горшая праца беларуская лепшая за ніякаю. Дык мы не зьяўляемся дзеля барацьбы зь якімі колечы беларускімі кірункамі і ськіруем свае вочы й крокі туды, дзе гэтае працы мала або й зусім няма шака. Ходацца зь Беларусамі мы ня думаем. Але гэта ня знача, што мы будзем зачыняць вочы на заганы, што ёсьць або могуць быць у дзейнасьці тых ці іншых беларускіх арганізацыеў і асобных Беларусаў. На гэтыя заганы мы павінны і будзем зварочаваць увагу і зь імі ходацца дзеля дабра Беларускага Руху і самых-жа арганізацыеў. З гэтае-ж прычыны Беларускі Сялянскі Саюз аддаліў ад сябе Ярэміча, Рагулю й А. Більдзюкевіча, бо яны дзеля сваіх асабістых карысьцеў шкодзілі справе беларускага сялянства й Народу.

Сілы нашыя пакуль што невялікія, але аддаем іх усе на аўтар нашае Бацькаўшчыны. Хутчэйшая ці памалейшая ўдача нашае працы залежа ад таго як беларускае сялянства будзе адгукацца на нашаю працу і памагаць нам. Дык усіх беларускіх сялян як працуючых на зямлі так і інтэлігенцыю заклікаем памагчы нам у працы арганізацыйнай і матар'яльна. Ад Вашае памогі залежа, каб „Народ" наш борзда павялічыўся і стаў часьцей выходзіць.*)

Рэдакцыя „Народу".

## Ня зьбілі, на'т не запярэчылі, але пацьвярдзілі.

У ваднаднеўцы „Народ" з 14 чэрвіня сёлета мы з фактамі ў руках паказалі зусім ясна ўсю шкодную дзейнасьць Ярэміча, Рагулі й А. Більдзюкевіча. Там-жа было паказана, што паправіць гэтых людзеў ня было магчымасьці, бо яны мелі наўвеце вылучна свае асабістыя інтарэсы. Нездаволеныя іхняй шкоднай работай сябры Саюзу прымушаны былі працаваць асобна ад Яр., Рагулі й А. Більдз., чакаючы, што годні партыйны зьезд, перавыбраўшы прэзыдыум, паправе справу.

*) Зь нястачы матар'яльнай прымушаны мы цяпер выдаваць „Народ" толькі двойчы ў месяц і запаўняць палову яго матар'ялам літаратурным.

Першая конфэрэнцыя Саюзу была 24 сакавіка 1926 г. Значыцца 24 сак. 1927 г. скончыўся год ад конфэрэнцыі і павінен быў быць годні зьезд Саюзу, на каторым быў-бы перавыбраны такжа прэзыдыум. Але прайшоў сакавік, красавік, май і часьць чэрвіня, а зьезду Ярэмічаўска-Рагулеўскі прэзыдыум ня склікаў, ня гледзячы на дамаганьне. Дзеля гэтага сябром Саюзу, каторыя відзелі ўсю шкоднаю дзейнасьць Ярэміча, Рагулі й А. Більдзюкевіча, не аставалася нічога іншага рабіць, як пастанавіць ня лічыць іх сябрамі Саюзу і, утварыўшы Часовы Камітэт Бел. Сял. Саюзу, афіцыяльна пераняць працу Саюзу ў свае рукі. Гэта яны й зрабілі і паведамілі аб гэтым пераз аднадзёўку „Народ“. У Часовы Камітэт Саюзу ўвайшоў такжа грам. Ю. Мурашка, былы сябра былога Ярэмічаўскага прэзыдыума—адзіны пасьцівы, незалежны й самастойны чалавек гэнага прэзыдыума.

Як-жа адказалі на гэта панове Ярэмічаўцы? Можа яны зьбілі фактамі тое, што мы пісалі, або можа давялі, што мы паступілі нядобра? Нічагусенькі падобнага яны не зрабілі, нат не запярэчылі, бо й пярэчачы трэба прывесьці якісь хоць слабенькі аргумэнт, а дзе ўзяць яго проці чыстай і яснай праўды. Яны перайшлі да свае штодзеннае стравы, да таго, у чым вялікія майстры—да лаянкі, выдумляньня й маны.

У № 48 і 49 „Сялянскае Нівы“ панове Ярэмічы проста заяўляюць, што нашая акцыя зроблена ў паразуменьню з Палякамі ці, тачней, з польскімі дэмократамі, каторым, бачыце, трэба было зьністожыць п. п. Ярэміча й Рагулю. Тут-жа, каб узбудзіць большаю агіднасьць да нашае працы, „Сялянск. Ніва“ прычапляе неяк і польскаю дэфэнзыву. Як было сказана вышэй, „Сял. Ніва“ ніякіх фактаў і довадаў не падае, чытары ейныя маюць прыняць **на веру** тое, што п. Ярэміч і Рагуля пішуць, **прымушаны самі бараніцца.**

Праўда ёсьць адзін і „довад“ проці нас. Гэта быццам нашаю акцыю польская дэмократычная газэта „Kurjer Wileński“ „пахваліла“. Запраўды „Kur. Wil.“ ў № 136 не пахваліў, а толькі сказаў тое, што запраўды ёсьць. Але дапусьцім, што пахваліў, дык ціж з гэтага вынікае, што нашая праца нягодная і робіцца ў паразуменьню з Палякамі. Ці мала калі Палякі п. Ярэміча хвалілі! І цяпер польская чарнасоценная газэта „Dziennik Wileński“ ў № 140 падзьдзержыла п. Ярэміча, а нас удала паліцыі, а хіба-ж „Dz. Wil.“ адносіцца да беларускае справы гарэй за „Kur. Wil.“?. Апрача таго польскі часапіс у беларускай мове—„Беларускі Дзень“ сыстэматычна выступае за Ярэміча і проці нас, а гэты-ж часапіс беспасярэдне залежыць ад польскае ўлады.

Але ня йдучы за прыкладам Ярэмічавым, мы й тут ня хочам рабіць жадных вывадаў, бо вось другі польскі часапіс у беларускай мове—„Беларускае Слова“, хоць за нас і не заступаецца, але шчыра сьмяецца зь Ярэміча й Рагулі. Відаць польскія ворганы не дасталі інструкцыі ў справе аддаленьня із Саюзу Ярэміча, Рагулі й Більдзюкевіча.

Ад „Сял. Нівы“ мы нічога іншага й неспадзяваліся. Але значнай і няпрыемнай неспадзеўкай было нам нягоднае выступленьне проці Беларускага Сялянскага Саюзу „Biełaruskaj Krynicy“ (№ 26). Няпрыемнай дзеля таго, што „Bieł. Kr.“ і асабліва „Krynica“ мае харошаю мінуўшчыню. Беларускаю Хрысьцянскаю Дэмокрацыю мы лічым арганізацыяй патрэбнай і паважаем шмат якіх яе дзеячоў. На жаль, на чале Бел. Хр. Дэм. не стаяць цяпер такія людзі, як кс. пралат Абрантовіч або кс. В. Гадлеўскі, умеючыя працаваць арганізавана і маючыя патрэбнаю палітычным кіраўніком выдзержку. Кс. А. Станкевіч, ня гледзячы на сваю беларускаю сьвядомасьць і заслугі для беларускай справы, гэткім кіраўніком ня ёсьць. Нямаш у яго ані выдзержанага кірунку ані сыстэматычнай працы і ўся ягоная хадэцыя мае такую арганізацыю, якую хіба мелі партыі за часоў Абрагамовых—чыста патрыярхальнаю.

Ужо дзевяты год як ён, не вядучы цяжкой памальнай сыстэматычнай працы, прывык зрываць красачкі зь беларускае нівы. А калі стаўся фактычным кіраўніком усяго несоцыялістычнага беларускага кірунку ў Заходняй Беларусі, дык страшна запышэў. Дзеля таго, пачуўшы з радыкальна-соцыялістычнага боку вострою крытыку сябе, праўда не заўсёды справядліваю, але, звычайна, непераходзячаю граніцаў дапушчальнага ў прэсе, страціў усялякаю аднавагу і ўзьняў такую лаянку, якой пазавідавалі-б пэўне героі віленскіх Басакаў. З свае „Bieł. Krynicy“ ён адразу перакінуў гэтаю лаянку ў залежнаю ад сябе „Сялянскаю Ніву“. У гэтым ён грызьні паміж Беларусамі ня бачыў, гэта быў быццам гнеў зьняважанага Юпітэра (ці мо індыка).

А цяпер вінаваціць нас, што мы быццам падыймаем грызьню й лаянку, што стараемся „ачарніць“ сваіх праціўнікаў. Чаму не паказаў **што** ў нас няпраўда або **дзе лаянка**? Мы ня толькі не сказалі нічагусенькі непраўдзівага, але й з праўдзівага сказалі толькі найпатрабнейшае. Калі-б мы хацелі „чарніць“, а не казаць патрэбнаю праўду, дык, прыкладам, назвалі-б Рагулю маскоўскім чарнасоценцам і 9/10 гэтаму паверылі-б, бо яшчэ помняць як ён на вучыцельскім зьезьдзе ў 1917 г. ў Менску забараняў прамаўляць пабеларуску і давадзіў, што няма беларускае мовы; але мы напісалі толькі, што ў яго ад старога чарнасоценства асталося сьляпое русафілства, і гэта—шчырая праўда.

Мы разумеем, што кс. А. Ст., каторы паставіў Ярэміча й Рагулю ў ролю сельсаюзьнікаў, цяжка расставацца із сваімі стварэнцамі, але праўда й карысьць справы павінна быць і яму дорага*).

Ня зьбіваючы паданых у ваднаднёўцы „Народ“ фактаў, а толькі нягодна лаючыся й лгучы, паны Ярэмічы самі пацьвярдзілі сказанае намі, што яны лаянкай, выдумляньням і маной пашыраюць дэморалізацыю**).

---

*) Адзначым яшчэ адно ў паноў Яр. і кс. А. Ст. Яны пішуць, што сябра Часовага Камітэту Бел. Сял. Саюзу, д-р Я. Станкевіч, ня быў раней сябрам Саюзу, а тымчасам навет з паведамленьня Праскай Арганізацыі Бел. Сял. Саюзу (гл. ніжэй) відаць, што ён быў заўсёды сябрам Саюзу. Апрача таго ён разам зь іншымі быў і закладчыкам Саюзу.

**) Уся лаянка-мана ў ваднасінах да нас ськіравана проці аднаго д-ра Я. Станкевіча, хоць ня ён адзін працуе ў Беларускім Сялянскім Саюзе і ня ён адзін аддаліў з Саюзу паноў Ярэмічаў. Робіцца гэта ў надзеі, што іншыя сябры, напалоханыя гэтай бруднай маной, мо будуць стараніцца актыўнай працы ў Саюзе. Але тактыка гэтая, ведама, не дапне свае мэты.

Аказуецца, што мана-лаянка, кіданая шчодра на нас панамі Рагуляй, Ярэм. і А. Більдзюкевічам, не дала ім жаднай карысьці, бо ім ніхто не паверыў. Навет дзівосная „конфэрэнцыя“ (глянь ніжэй) складзеная із запрошаных, залежных ад іх, людзёў, не захацела ані крышку пацьвярдзіць таго, аб чым яны ўвесь месяц трубілі ў „Сял. Ніве“. Ціж гэтым яны не засуджаны!?

Няшчасная тройка!

**Давід Масаленя.**

## Ліст у Рэдакцыю.

### Паважаны Спадару Рэдактару,

не адмоўцеся надрукаваць у нашым часапісе „Народ“ ніжшае:

„Сялянская Ніва“ й „Biełaruskaja Krynica“ ў шалёнай злосьці на мяне за тое, што я разам зь іншымі прычыніўся да ліквідаваньня асабіста-спэкуляцыйнай і шкоднай дзейнасьці Яраміча, Рагулі й А. Більдзюкевіча, нягодным, у вадных іх толькі магчымым, спосабам чэрняць маё добрае імя. Бяз жадных фактаў і дабодаў*) яны заяўляюць, што я зьвязаўляюся сьляпым, а навет і не сьляпым („Сял. Ніва“) аружжам у варожых руках і што я „здэмаралізаваны тып“.

Я на беларускай ніве працую з 1909 г., яшчэ ў тым часе, калі панове Ф. Ярэміч і А. Більдзюкевіч лічылі сябе Палякамі, а п. В. Рагуля быў маскоўскім чарнасоценцам. За ўвесь час свае працы ніколі я не сустракаўся з закідамі, падобнымі да тых, катория зроблены мне цяпер вышменаванымі панамі, калі яны прымушаны выступіць проці мяне ў **вабароне самых сябе**. Адносіны да мяне нашага грамадзянства найляпей бароняць маю грамадзкаю чысьціню й ідэйнасьць. Зьбіць накшымі спосабамі робленых мне нягодных фальшывых закідаў я ня маю магчымасьці, як ня можа найпасьцівейшы чалавек, на каторага жулікі з-за вугла крыкнуць „злодзей!“, давесьці, што ён ніколі нічога ня ўкраў, бо нельга **фактамі** давесьці таго, чаго **ня было**.

Зазначу яшчэ, што й вышменаваныя панове яшчэ нядаўна ня лічылі мяне такім нягоднікам, якім захацелі афіцыяльна палічыць цяпер пасьля майго выступленьня проці іх.

Яны прасілі мяне (кс. А. Станкевіч ад усіх і Ф. Ярэміч) як найбарджджэй варочацца з Прагі ў Вільню дзеля працы ў Краёв. Арг. Бел. Сял. Саюзу. Пасьля прыезду ў Вільню я быў якісь час рэдактарам „Сял. Нівы“, пакуль ня выступіў зь яе ў пачатку сьнежня 1926 г., калі прэзыдыум Саюзу, ня гледзячы на мае пратэсты, стаў у ёй праводзіць дэмаралізацыйны кірунак. Перад выданьням аднаднёўкі „Народ“ кс. А. Станкевіч, каторы цяпер чэрніць мяне ў „Biełaruskaj Krynicy“ (дзякуючы яму там была надрукавана брудная мана аба мне ў № 26) выставіў мяне ў грамадзянскі суд над п. Ст. Сьвяневічам. Хіба-ж тады кс. А. Станкевіч лічыў мяне моральным. Суд адбыўся ўжо па надрукаваньню ў „Biel. Krynicy“ нягоднай стацьці аба мне. Чаму-ж тады кс. А. Ст., калі ён даведаўся, што я „неморальны тып“, не адазваў мяне з грамадзянскага суду, куды сам мяне запрапанаваў ад блізкога яму кірунку беларускага грамадзянства, або прынамся не наказаў аб гэтым грам. суду? З гэтага відзім, што дзе трэба пасьцівыя людзі, там кс. А. Ст. прапануе мяне, але адначасна маніць на мяне, калі я яму ў чым перашкаджаю.

Ляпей было-б, каб „дабрадзейны“ кс. А. Станкевіч замест „даглядаць“ мае моральнасьці, катора хіба і ў васабістым маім жыцьцю ня горшая за моральнасьць іншых звычайных людзёў, заняўся сваёй собскай моральнасьцяй і бліжшых да сябе людзёў, а тады хіба скарбнік Цэнтральнага Камітэту Бел. Хрысьціянскай Дэмократыі ня былбы сябрам „Беларускай хаткі“ Паўлюкевічавай.

Калі-б хоць крышку было праўды ў тым, што аба мне пісалі ў „Сял. Ніве“ й „Biel. Krynicy“ панове Ярэмічы й Ко. разам із сваім закулісным дырыгентам, дык „конфэрэнцыя“ Ярэмічава 24 ліпня сёлета, складзеная з асабіста запрошаных і залежных ад іх людзёў, хоць у малой меры гэта пацьвярдзіла-б, а тымчасам конфэрэнцыя аб гэтым не сказала ані слова.

Із шчырай пашанаю

*д-р Я. Станкевіч.*

Вільня, 1.VIII 27.

*) Адзіным іхнім „довадам“ ёсьць тое, што я ў „асабістых прыяцельскіх адносінах зь некаторымі супрацаўнікамі „Kurjera Wilen‘скага“. Прызнаюся, што мне таксама здаецца, што я маю двух маладых прыяцелеў з паміж супрацаўнікоў „Kur. Wil.“; гэтыя мае асабістыя прыяцелі да значнай меры справядліва адносяцца да беларускага руху і сыстэматычна яго бароняць у „Kur. Wil.“. Шкада толькі, што яны маюць малы ўплыў у гэнай газэце.

## Праскія сябры ў справе краёвай арганізацыі Бел. Сял. Саюзу.

Праская Арганізацыя Беларускага Сялянскага Саюзу зрабіла паведамленьне, каторае мы тут цэлае друкуем. Вось яно:

„Апошнія падзеі ў **краёвай арганізацыі** Беларускага Сялянскага Саюзу, паводле прэсавых вестак, сталі прычынай **дамыслаў**, што акцыя групы, згуртаванай каля аднаднёўкі „Народ“, павялася зь ведама, а навет і волі Беларускага Сялянскага Саюзу ў Празе. Дзеля сьцьвярджэньня запраўднага стану рэчаў лічым за патрэбнае падаць да публічнага ведама гэтулькі:

**„Беларускі Сялянскі Саюз у Празе заснаваны ў 1922-ім годзе** і ў першыя часы свайго існаваньня вёў пацгатаваўчаю працу дзеля пашырэньня свае ідэалёгіі як заграніцай так і ў Краі.

**„Увосені 1925-га году адбылася ў Празе Чэскай конфэрэнцыя прадстаўнікоў Беларускага Сялянскага Саюзу ў Празе з паслом у Польскі Сойм гр. Ярэмічам, пасьля якой была заложана краёвая арганізацыя Беларускага Сялянскага Саюзу.**

„Акцыя групы згуртаванай каля аднаднёўкі „Народ“, кіраванай, паводле вестак прэсы, сябрам Беларускага Сялянскага Саюзу ў Празе гр. Я. Станкевічам вядзецца бязь ведама, а тым балей згоды Праскае Арганізацыі Бел. Сялянск. Саюзу.

„Беларускі Сялянскі Саюз у Празе лічыць шкодным дзеля пашырэньня ідэі арганізацыі Беларускага Сялянства ўсякі **падзел і нязгоды на ўлоньні кіраўніцтва тае ці іншае арганізацыі Бел. Сялянскага Саюзу.**

„Беларускі Сялянскі Саюз у Празе заклікае ўсіх грамацзян-Беларусаў, якія жадаюць дабра свайму Народу, згуртавацца ў адзіную моцную арганізацыю Беларускі Сялянскі Саюз і адкінуць усякія пэрсональныя амбіцыі і спрэчкі, якіх на вялікі жаль, Беларусы так шмат маюць.

„Пры гэтым падкрэсьліваем, што Беларускі Сялянскі Саюз у Празе стаіць на грунце поўнай незалежнасьці Беларусі; адкідае абсалютна ўсе, якія бы то ні было, арыентацыі і цьвёрда перакананы, што крыніца сілы толькі ў Беларускім Народзе, у Беларускім Сялянстве.

„Праз клясавую арганізацыю і сьведамасьць Беларускага Селяніна да сьведамасьці і арганізацыі нацыянальнае, да лепшае долі, да волі роднае Беларусі!.

Прага Чэская, 2 ліпня 1927 г.

За Праскую Арганізацыю Бел. Сял. Саюзу

Інж. кан. **В. Лаўскі**, старшыня

**А. Орса**, сэкрэтар.

**Ад Рэдакцыі.** Мы падчыркнулі некаторыя месцы гэтага паведамленьня, каб ляпей адцеміць думкі ягоных аўтараў.

Якая-ж прычына або мэга выданьня яго?

Бяссумлеву прычынай ня могуць быць чыесь **дамыслы**, бо тады падобныя паведамленьні прыйшлося б выдаваць надта часта. Дамыслы, ведама, маглі зьявіцца толькі добрай прычэпкаю дзеля мэтаў, вынікаючых зь іншых, важнейшых, прычынаў. Проці цьвярджэньня Ярэмічавага, што ён з Рагуляй заклалі Беларускі Сялянскі Саюз у 1925 г., у паведамленьні кажацца, што Беларускі Сялянскі Саюз закладзены ў Празе ў 1922 г. і што Краёвая Арганізацыя Бел. Сял. Саюзу была заложана ўвосень 1925 г. пасьля конфэрэнцыі Ф. Ярэміча ў Празе з прадстаўнікамі (адным зь іх быў Я. Станкевіч) Беларускага Сялянскага Саюзу, гэта значыцца, што бяз згоды гэтых прадстаўнікоў Ярэміч ня мог-бы пачаць жаднай акцыі Саюзу ў Краі.

Аб гэтых двух фактах мы паведамілі ў ваднаднеўцы „Народ“.

Але гэта яшчэ ня ўсё. Паведамленьне проста здымае кароны з галавы пана Ярэміча й Рагулі, бо кажа, што яны былі ў прэзыдыуме не ўсяго Саюзу, а толькі аднэй з арганізацыяў. На гэта п. п. Ярэміч і Рагуля адказалі тым, што ласкава дазволілі „конфэрэнцыі“ з запрошаных, залежных ад іх людзёў назваць выбраны імі Ярэмічаўскі камітэт „Цэнтральным Камітэтам Бел. Сял. Саюзу“. Го, го, праскія сябры, вы зь Ярэмічам не жартуйце!

Іншыя пункты паведамленьня таксама згаджаюцца з паглядамі й жаданьнямі нашымі. Мы таксама лічым шкодным „дзеля пашырэньня ідэі арганізацыі Беларускага Сялянства ўсякі падзел і нязгоды на ўлоньні кіраўніцтва (ды ня толькі кіраўніцтва—Рэд.) тае ці іншае арганізацыі Бел. Сял. Саюзу“ і г. д., дзеля таго мы толькі пасьля году, толькі тады аддалілі ад Саюзу Ярэміча й Ко., калі накшага выхаду ня было, каб спыніць іхнюю шкодную дзейнасьць.

Праская Арганізацыя Б. С. С. сваім паведамленьнем зганіла Ярэміча й Рагулю, але й да нашае акцыі ня прылучылася. Аднак мы пэўны, што, пабачыўшы нашую працу, нашыя праскія сябры будуць разам з намі.

**Ярэміч і Рагуля падалі фальшывую вестку аб паведамленьню.**

Панове Ярэмічы нічога не рабілі з паведамленьня, каторае іх вучыла адумацца й направіцца. Наадварот, замест перадрукаваць зь „Вieł. Krynicy“ № 29 (у „Сял. Ніву“ паведамленьне ня было прыслана), панове Ярэмічы сваім звычаям падалі аб ім фальшывую вестку, назваўшы яго протэстам проці нас.

Вось што напісала „Сял. Ніва“ ў „навінах“ № 55:

**„У справе „Народу“ без народу.**

„Biel. Krynica“ зьмясьціла пратэст беларускіх студэнтаў у Празе Чэскай, сяброў Беларускага Студэнскага Сялянскага Саюзу, якія выступілі проці Я. Станкевіча і яго імкненьня разьбіць беларускі сялянскі рух.

Студэнты ў сваім пратэсьце пішуць, што іх Саюз ніякіх паўнамоцтваў Янцы Станкевічу не даваў і яго паступкі лічыць шкоднымі для беларускага сялянства“.

Як бачым, Ярэмічава тройка дзяржыцца цьвёрда свае тактыкі фальшаваньня й ашуканства.

## Дзівосная „конфэрэнцыя“.

Сябры Беларускага Сялянскага Саюзу, бачачы як Ярэміч, Рагуля й Більдзюкевіч шкодзяць сялянскай і наагул беларускай справе, дамагаліся скліканьня партыйнага зьезду, каб гэткім парадкам суняць іхнюю шкодную дзейнасьць. Але тыя як раз гэтага й баяліся й зьезду ня склікалі. Калі-ж ужо ня было надзеі на скліканьне зьезду, іншыя сябры Беларускага Сялянскага Саюзу, разам із сябрам прэзыдыуму, Ю. Мурашкам, каб ўратаваць Саюз ад загубы гэнымі трыма чалавекамі, пастанавілі ня лічыць іх сябрамі Саюзу, а самі ўтварылі (з трох чалавекаў—Ю. Мурашкі, д-ра Я. Станкевіча й М. Шавель) Часовы Камітэт Бел. Сял. Саюзу, катораму й передалі да часу кіраваньне працаю Саюзу.

Як раней панове Яр., Раг. й Більдз. баяліся зьезду, так цяпер яны зразумелі, што толькі які-колечы прыязны да іх зьезд можа вярнуць ім сяброўства ў Саюзе. Вось гэткі зьезд яны й пачалі майстраваць. Але борзда аказалася, што сабраць што-колечы падобнае на зьезд немагчыма, бо, апрача некалькіх залежных чалавекаў, усе сябры Саюзу настроены проці Ярэміча й Рагулі.

Тады пастаноўлена замест зьезду зрабіць толькі конфэрэнцыю.

Якая-ж была гэная конфэрэнцыя?

Была яна запраўды дзівосная.

У сыботу 23-га ліпня „Сялянская Ніва“ гэтак пачынала сваю перадавіцу: „Знаходзімся **на пярэдадні канфэрэнцыі запрошаных сяброў** (падчырк шаш—**Рэд.**) Беларускага Сялянскага Саюзу“. У № 58, што выйшаў па „конфэрэнцыі“, тая-ж „Сял. Ніва“ ў „навінах“ (зацемка „З кім па дарозе?“) пісала: „адбылася канфэрэнцыя (а ня зьезд!) Бел. Сял. Саюзу, у **мэтах падгатоўкі** да зьезду. **Запрасілі людзей колькі хацелі**“.

Значыцца сама „Сялянская Ніва“—Ярэмічаўска-Рагулеўскі ворган—сьведча, што была „конфэрэнцыя“, а ня зьезд, што **мэтаю „конфэрэнцыі“ было—прыгатова да зьезду, што на „конфэрэнцыі“ былі запрошаныя асобы, а ня выбраныя прадстаўнікі.**

Арганізатары „конфэрэнцыі“ нікога зь незапрошаных Беларусаў у характары публікі на „конфэрэнцыю“ ня пушчалі. Гэтакім парадкам у вадносінах да Беларусаў Ярэмічава „конфэрэнцыя“ была закрытай, хоць прадстаўнікі польскай паліцыі на ёй маглі быць.

З гэтае-ж прычыны нельга ведаць, колькі на „конфэрэнцыі“ было ўчасьнікаў і колькі іх прыехала зь вёсак. „Сял. Ніва“ (№58) піша, што зь вёсак прыехалі 22 чал. а 5 чал. было віленскіх, значыцца ўсіх разам 27 чал., але іншыя віленскія газэты паказалі, што зь вёсак было толькі 8 чал., а 11 віленскіх. Але нам здаецца, што ўсіх можа быць праўда, бо розьніца залежыць ад таго, каго хто палічыў вясковым. Ярэмічава „Сял. Ніва“ прыехалымі зь вёскі палічыла і ўсіх тых, што на вёсцы толькі **радзіліся**, а ўжо даўно жывуць у Вільні. Ня ведама также колькі на „конфэрэнцыі“ было людзёў пазычаных у Бел. Хрысьц. Дэмакрацыі. У ліку сяброў „конфэрэнцыі“ былі наўперад яе арганізатары—Рагуля, Ярэміч, Більдзюкевіч, Куніцкі, д-р Б. Туронак, каторыя й былі ўсе выбраны ў „камітэт“. А запрошаны былі людзі залежныя ад кс. А. Станкевіча, Ярэміча й Рагулі. Гэтак прыкладам: Сьвістун—платны карэктар „Сял. Нівы“, Матусэвіч зь Нясьвескага пав.—таксама платны супрацаўнік „Сял. Нівы“, Малей—складальнік у друкарні Фр. Скарыны (належа да кс. А. Ст. й Ярэміча). Аб Сьвістуне „Сял. Ніва“ напісала, што ён прыехаў з Ваўкавыскага пав. Праўда, прыехаў, але даўно. Гэтакім-жа прыехалым зь вёскі ёсьць і работнік віленскай друкарні, Малей. Зь іншых запрошаных было некалькі б. курсантаў коопэратыўных курсаў, каторым Бел. Інст. Гаспадаркі й Культуры (старшыня Більдзюкевіч!) паабяцаў памагчы закласьці крамы, і былі вельмі маладыя хлапцы-вучні, каторых той-жа Інстытут абяцаў пасласць у Амэрыку.

Дык вось які быў склад „конфэрэнцыі“!

Каб крышку апраўдаць арганізатараў, мусім дадаць, што запрасілі яны яшчэ шмат каго, але тыя адмовіліся ехаць на Ярэмічаву „конфэрэнцыю“. Просячы на „конфэрэнцыю“, арганізатары пісалі, што пачнецца яна 23 ліпня ў 12 гадзінаў дня, але дзеля таго што вялізарная большасьць запрошаных не прыяжджала (і ня прыехала), яна запраўды пачалася 24 ліпня.

Нельга сабе прадставіць чагось мізарнейшага як была Ярэмічава „конфэрэнцыя“! І гэта пасьля паўтара году нібыта працы Ярэміча й Рагулі, калі былі грошы, калі выдаваўся часапіс „Сялян. Ніва“ спачатку раз а потым і двойчы ў тыдзень, калі самі „кіраўнікі„, Ярэміч і Рагуля, былі пасламі, значыцца не патрабавалі працаваць на жыцьцё і апрача вялікай пэнсыі мелі дармавы праезд па чыгунках,—калі пры ўсім гэтым Ярэміч і Рагуля не маглі нічагусенькі зрабіць і дайшлі да такога скандалу, як Ярэмічава „конфэрэнцыя“, дык яны-ж чысьцюсенькія банкроты! Калі хто не паверыў таму, што мы пісалі аб Ярэмічу й Рагулі, дык пасьля гэтай скандальнай „конфэрэнцыі“ мусіў сказаць, што з такімі кіраўнікамі, як Ярэміч і Рагуля, Беларускі Сялянскі Саюз проста сьвіне зьелі-б. Цяпер ужо ніхто ня можа сумлявацца, што нашая акцыя была канечне патрэбнай.

Але сумляваўся-б той, хто бы думаў, што Ярэміч і Рагуля, зразумеўшы, што іхняя палітычная кар'ера скончана, перастануць спэкуляваць на Беларускім Сялянскім Саюзе. За надта яны маюць наўвеце свае асабістыя інтарэсы і за надта разласаваліся сваім дагэтулешнім палажэньням, каб ад яго адрачыся. Адракуцца толькі тады, як і найдурнейшаму будзе відавочна, што іхняя асабістая справа праграна.

Дзеля гэтага й на „конфэрэнцыі“ яны захацелі, каб быў выбраны камітэт (!) іхняй „арганізацыі“ і назвалі гэны камітэт самазвана „Цэнтральным Камітэтам Беларускага Сялянскага Саюзу“. У гэны дзіўны камітэт, ведама, „абраны“ самі арганізатары „конфэрэнцыі“—Ярэміч, Рагуля, Більдзюкевіч, Куніцкі, д-р Б. Туронак—карэктар „Сял. Нівы“, Сьвістун (пэўны чалавек, бо залежны) і Юхневіч.

Што можа быць дзівасьнейшага, калі **„конфэрэнцыя“ складзеная з залежных запрошаных людзёў дзеля прыгатовы да зьезду** (глянь вышэй), **выбірае „Цэнтральны Камітэт“**!?

Але і ў запрошаных—залежных ад сябе людзёх паны Ярэмічы й Рагулі ня былі пэўныя, яны перад „конфэрэнцыяй“ зусім не паведамлялі запрашаных і не друкавалі ў газэтах праграмы „конфэрэнцыі“. І зь іхняга гледзішча іхняя асьцярожнасьць ня была лішняй, бо аказалася, што бедныя залежныя людзі паслушныя сваім „дабрадзеем“ толькі да ведамай меры. Яны „выбралі“, каго ад іх хацелі ў „камітэт“, прынялі рэзалюцыі, але ні зашто не згадзіліся хоць крышку выступіць проці нашае акцыі, проці запраўднага Беларускага Сялянскага Саюзу, і проці лаеных Ярэмічамі й Kогоных прадстаўнікоў (д-р Я. Станкевіч і інш.) Гэтакім парадкам панове Ярэміч, Рагуля, Більдзюкевіч і кс. А. Станкевіч былі асуджаны навет сваёй „конфэрэнцыяй“ за нягоднае бэшчаньне ў працягу месяца ідэйных людзёў. У гэтым праявілася беларуская выдзержанасьць сяброў „конфэрэнцыі“. Людзі іншага народу на іхнім месцу былі-б паслушнейшыя.

**Давідовіч.**

---

У першым нумары мы мусілі адказаць нашым працівнікам на тое, што яны на нас пісалі некалькі месяцаў і з гэтае прычыны мала асталося месца на іншы матар'ял. У дальшых нумарох панамі Ярэмічамі будзем займацца як найменей і зьмест часапісу будзе разнавітшы.

**Рэд. „Народу“.**

ј=й (мој=мой, јіх—йіх або іх).

ЯКУБ КОЛАС (К. МІЦКЕВІЧ).

# Новая Зямля.

## ПОЭМА.

### I.

### ЛЯСЬНІКОВА ПАСАДА.

Мој родны кут, як ты мне мілы!
Забыць цябе ня маю сілы!
Ня раз, утомлены дарогај,
Жыцьцём вясны мае убогај,
К табе я ў думках залятаю
І там душою спачываю.
О, як-бы я хацеў спачатку
Дарогу жыцьця папарадку
Прајсьці яшчэ раз, азірнуцца,
Забраць з дарог камені[1]) тыя,
Што губяць сілы маладыя—
К вясьне-б маеј хацеў вярнуцца.

Вясна, вясна! не для мяне ты!
Ня я, табою абагрэты,
Прыход твој радасны спаткаю,—
Цябе на век, вясна, хаваю.
Назад ня прыйдзе хваля тая,
Што з быстрај рэчкај уплывае.
Ня раз яна, зрабіўшысь парам*)
На крыльлях сонца дојдзе к хмарам
Ды јзноў дажджом на рэчку зыйдзе—
Ніхто з граніц свајіх ня выйдзе,
З законаў, жыцьцем напісаных,
Або на дол спадзе ў туманах.
Але хто нам яе пакажа?
На дол вадој ці сьнегам ляжа?
Ня вернецца як хваля тая,
Ка мне, вясна ты маладая!...

Вось як цяпер, перада мною
Ўстае куточак тој прыгожа.
Крынічкі вузенькае ложа
І елка[2]) ў пары з хвајіною,
Абняўшысь цесна над вадою,
Як маладыя ў час каханьня,
Ў вапошні вечар расставаньня.
І бачу лес я каля хаты,
Дзе калісь весела дзяўчаты
Пялі[3]) песьні дружным хорам,
З работ јідучы позна борам.
Нясьліся зыкі песьнеў[4]) здольных,
Ў лясох раз-по-раз адбіваліс,
Јім ўзгоркі ўсюды адклікаліс,
І чулась радасьць ў песьнях вольных.
А хвоји, елкі векавыя
Пад зыкі песьнеў маладыя
Маўчкі[5]) сталі ў нейкај думе,
І ў јіх ціхусенечкім шуме
Няслось вячэрняе маленьне
Ўгару, сьвятое аддаленьне.
Каля пасады лясьніковај
Цягнуўся гожаю падковај
Стары, высокі лес цяністы.
Тут верх асіны круглалісты
Сплятаўся з хвоямі, з дубамі,
А елкі хмурымі крыжамі
Высока ў небе выдзяляліс,
Таемна з хвоямі шапталіс.
Заўсёды смутныя, бы ўдовы,
Яны найбольш адны стаялі,
І так маркотна пазіралі
Іх задуменныя галовы!
Лес наступаў і расступаўся,
Лужком зялёным разрываўся,
А дзе прыгожыя загібы
Так міла јшлі каля сялібы,[6])
Што проста јімі-б любаваўся.
А зьнізу гэты лес кашлаты
Меў зелянюсенкія шаты
Лазы, чарэмхі[7]) ці крушыны,
Алешын ліпкіх верабіны.
Глядзіш, бывала, і здаецца,
Што скрозь сьцяну галін жывую,
Скрозь гэту тканку маладую
Ні мыш, ні птушка не праб'ецца.
Цякла тут зь лесу невялічка
Травој зарослая[8]) крынічка,
Абодва берагі каторај
Лазьняк, ракітнік абступалі;
Бруіліся ў цяньку јіх хвалі
І ў луг чуць значнаю разорај
Ішлі спакојна між чаротаў,
Рабілі многа заваротаў,
Аж покі ў Нёман не ўцякалі.

Зялёны луг, як сьцінуць вокам,
Абрусам пышным і шырокім
Абапал Нёмна расьцілаўся—
За хатај зараз пачынаўся
Ды јшоў квяцістај раўніною
З мурожнај слаўнаю травою
І зьзяў на сонцы ў пераліваx
Пяшчотных тонаў. Як на нівах
Жыта, збажынка лёгка гнуцца
І людзям радасна сьмяюцца
Свајім прыемным, мілым сьпевам
Пад лёгкім ветрыка павевам,—
Так гнуцца, гојдаюцца травы,
Як пројме ветрык јіх ласкавы,
І појдуць хвалі травяныя
З прыемным сьпевам чарадою,
Зашэпчуць краскі між сабою,
Быццам[9]) дзяўчаткі маладыя.

Эх, луг шырокі! Як жывы, ты,
Праменьнем*) сонејка заліты,
Стајіш у мяне прэд вачыма,
Ты міл і смуцен, як радзіма,
Як наша ціхая старонка,
Дзе смугі сіняя пялёнка
У летні час дымком зьвісае
І даль задумај спавівае.
Хохь я няволяј цяжка змучан
І з родным берагам разлучан,
Ды я душою ажываю,
Як вокам мысьлі азіраю
Цябе, мој луг і бераг родны,
Дзе льлецца Нёман срэбраводны,
Дзе дубы дружнај чарадою
Стаяць, як вежы, над вадою
Даўнејшых спраў вартаўнікамі
І зьзяюць грозна тараламі.
І толькі тут, пад јіх чародкај
Улетку, добраю пагодкај,

*) Маскалізм, пабеларуску—парај.

*) полёнізм, пабл.—косамі.

Касьбој утомлены, спачынеш
І думкі клопату пакінеш,
Заснуўшы крэпка і салодка.
Тут так прахладна,*) так прывольна!
А птушкі галасна і здольна
Сьмяюцца мілым шчабятаньням
І поўняць луг сваім пяяньням.
А на дубох, як шапкі тыя,
Чарнеюць гнезды бусьляныя.
Буслы клякочуць, бусьляняты
Пішчаць жалобна, як шчаняты,
Насы закідваюць угору**)
І просяць есьці ў сваю пору.**)
А там, дзе бусьлікі ўздужалі,
Јіх пачынаюць вабіць далі;
Яны пачулі ў сабе сілы,
Яны розводзяць ужо крылы,
Ўгару на локаць падлятаюць,
Паветра ловяць, заграбаюць
І няуклюднымі нагамі
Танцуюць***) сьмешна над дубамі.
Там, у падсуседзях з бусламі
І верабјі, шпакі вядуцца;
Клапотна шчэбеты нясуцца
І моўкнуць позна вечарамі.
Ў дубох крычаць сіваваронкі,
І сьвіст над лугам рэзкі, звонкі
Каршун маркотна так раняе
І нејкі смутак пакідае.
Эх, луг шырокі! Як жывы, ты,
Травој мурожнаю закрыты,
Стаіш зялёны прада мною
І зьзяеш дзіўнаю красою!

Як дзьве старэнкія кабеткі,****)
Да якіх старасьць неўзаметкі,
Падкраўшысь*) злодзеям срэдзь**) ночы,
Як смачны сон заплюшча[9-а]) вочы,
Красу і крэпасьць забірае
І ўсю іх жывасьць выкрадае
Ды кіне іх адных, старэнкіх,
Адных, як перст, і чуць жывенкіх
І непатрэбных а нікому
На цягасьць жыццю маладому,—
Так каля хатачкі ў садочку,
Схіліўшысь ціхенька ў куточку,
Стаялі дзьве вярбы старыя,
А навакола маладыя
Дзярэўцы пышна красавалі,
На сьвет вясёла пазіралі.
Гальлё спусьціўшы над парканам,
Расла тут грушка з тонкім станам;
Па-над парканам пышным валам
Стаяў вішняк густы, прыўдалы.
Садок быў, праўда, невялічкі:
Дзьве верабіны ды тры дзічкі
Ды між верб ліпка маладая,
Бы іх унучка дарагая.

Але як весела і міла
Тут пчолка ў вульлях гаманіла!

*) маск., паблр.—тут такі халадок.
**) правільна мае быць—угару, пару.
***) чыста пабеларуску—скачуць.
****) пол., паблр.—жанчыны, жанкі.

*) маск., паблр.—прыцікаўшыся.
**) баўгарызм, паблр.—сярод.

І як прыемна пахла мёдам!
Пладзіліс пчолкі з кожным годам:
Што лета вульляў прыбывала—
На пчолкі вельмі шанцавала.
Тут гул-звон быў удзень, уночы.
Бывала ўлетку, ў час рабочы
Ня раз там чуўся крык вясёлы:
—Го, тата! дзядзька! вышлі пчолы!

На вішні селі каля плоту!—
Мужчыны кідалі работу,
Касьбу над рэчкај за кустамі,
І беглі шыбка, каб, часамі,
На лес дзе пчолкі не зьляцелі,
Дык іх там пільненька глядзелі.

На прыгуменьні поруч з садам,
Павець з гумном стаяла радам,
А пад паветкаю прылады:
Вазок, калёсы, панарады,
Старыя сані, восі, колы
І вульляў некалькі на пчолы,
Яшчэ някончаных; судзінка,
Стары цабэрак, паўасьмінка
І розны хлам і лом валяўся,
Ад сонца, дожджыку хаваўся,—
Патрэбны рэчы, ёсьць вядома.
Гуменца, крытае саломај,
Ад доўгіх часаў пасівела;
Салома кудламі вісела.
Яе вятры паразьдзімалі,
А трохі хлопцы пасьцягалі,
На стрэху лазячы, бывала,—
Јіх гэта забаўка зајмала.
А пад шчытом на павучыне[10])
Ніштчымны колас-сіраціна
У зацішку лёгенька гајдаўся;
Зь якіх ён часаў там трымаўся,
То Бог яго сьвяты ўжо знае!
Будоўля, больш яшчэ старая,
З гнілој, угнутаю страхою,
Стаяў хлявец, якраз напроці
І чуць ліпеў, як-бы на плоце
Гаршчок, разьбіты качаргою.
Стары, паедзены чарвямі,
На бок пахілены вятрамі,
Глядзеў хлеў гэты старычынај,
Пахілај долај, жабрачынај;
А збоку, ў полі, недалёка
Стаяў прыгрэбнік адзінока,
Пахілкам, горкім сіратою,
У дол упёршыся страхою.
Ў глыбі двара стаяла хата
І выглядала зухавата
Паміж запушчанај будовы,
Як-бы шляхцянка засьцянкова,
Што ўдзень сьвяты каля касьцёла,
Чуць-чуць падняўшы крај падола,
Так важна ходзіць з парасонам,
Спадніцај верціць, як агонам,
З дарожак пыл, пясок зганяе
У вочы хлопцам заглядае.

За хатај поле пачыналась,
Дзе жыта хораша гајдалась,
І рос авёс, ячмень і грэчка,—
Было прытульнае гнязьдзечка!...
Мој родны кут, лугі, крыніца!
Цяпер для вас я—чужаніца.

Тој самы лес, палеткі тыя,
Ды людзі там жывуць другія.
Мне душу смуткам напаўняе,
Што ў прошласьць канулі гадочкі,
Мае шчасьлівыя дзянёчкі,—
Прајшла, вясна ты маладая!

Цяпер разгорнем часаў шаты,
Бліжэј прыгледзімся да хаты,
Да Міхася і да Антося,
Як там вялося, як жылося.

II.

**РАНІЦА Ў НЯДЗЕЛЬКУ.**

Дзень быў сьвяты. Яшчэ ад раньня
Блінцы пякліся на сьняданьне,*)
І ўжо пры печы з чапялою
Стаяла маці... Пад рукою
Таўкліся дзеці, заміналі,
Або сьміяліся,[11]) пяялі.
Услон заняў сваё ўжо места**).
На јім стаяла ражка цеста,
І апалонік то і дзела***)
Па ражцы боўтаў жвала, сьмела
І кідаў цеста ў скавародкі.
Давала піск яно кароткі,
Льлючыся з шумам на патэльні,****)
І ў жар стаўлялася пякельны;
І там зь яго ўжо ў вачавідкі
Пякліся гладзенкія пліткі
Блінцоў, спаднізу наздраватых,
Угору пышна, пухла ўзьнятых,
І ўжо адтуль рукою маткі
На ўслон шпурляліся аладкі,
А дзеці јіх даўно сачылі
І наляту блінцы лавілі,
Заядла мазалі јіх здорам.
Стаяў асобна ў місцы скорам,
Сяго-таго для верашчакі.
Хоць невялікія прысмакі—
Цыбуля, перчык, ліст бабкоў,
Ды салца некалькі брускоў,
Мука і квас—і ўся прыправа,
Але ўсё-ж сьнеданьне цікава;
А для дзяцеј најбольша сьвята
Абы наесьціся заўзята.
І звон аб прыпек скавародны,
Так блізкі сэрцу, так јім родны,
У нејкім радасным настрою
Пяяў јім песьняю сьвятою
І лашчыў сэрцы јіх і вушы
І поўніў радасьцю јім душы,
Такі прыемны, мілагучны,
У тэј прыемнасьці выключны,
Ен разьліваўся па ўсім целе
І ў момант јіх зьнімаў з пасьцелі.
Ня дарма-ж дзядзька јіх, бывала,
Каб пабудзіць каго зь јіх жвала
Пагнаць кароўкі ранічкою,
У прыпек біў скаварадою.
Цяпер, здаволіўшысь ядою,
Дзяцінај цешыліс гульнёю.

*) правільна—сьнеданьне. **) маск., паблр.—месца.
***) маск., паблр.—абярняся. ****) пол., паблр.—сквара да.

Хто бегаў зь кіям каля хаты—
Ганяў курэј. Як парасяты,
Ў пяску капаліся сястрычкі.
Алесь хадзіў каля крынічкі,
Што зь лесу тут-жа выцякала
І дужкај хату агібала,
Хадзіў, сьвістаў пад голас птушак,
Зьбіраў ён ягадкі ў гарнушак.
Ўсе парасходзіліся з хаты,
І кожны дзелам быў заняты:
Міхал у лес пашоў ранютка
Рабіць звычајныя абходы;
Антось спаць доўга ня меў моды,
А як надарыцца мінутка
Часіны вольнај ці сьвяты дзень,
Ну хоць адзін разок на тыдзень
Хадзіў на Нёман ці на тоні—
Рыбак быў дзядзька наш Антоні,
Як і работнік, адмысловы;
А Ўладзік пасьвіў дзесь каровы,
Травіў чужыя сенажаці;
А дома зь дзецьмі была маці.
Яе жаночая работа
І гэта вечная турбота
То каля печы, то на полі,
Сказаць, ня зводзіцца ніколі.
Адно прыпыніш—там другое,
Глядзіш, як бачыш, набяжыць,
І ручак некалі злажыць—
Жыцьцё жаночае такое!
Так і цяпер: печ зачыніла,
Работу ў хаце прыпыніла—
Ідзі ў гарод ты па бацьвіньне:
Другі раз есьці просяць сьвіньні.
А гэты Юзік—шаляніца,
Малы яшчэ, зусім дурніца
Так пад нагамі і таўчэцца
Або, як хвост тој, валачэцца
І ад работы адрывае
І толькі сэрца ад'ядае.
Ўжо сонца ўгору падхадзіла,
На лісьцю[12]) роску асушыла;
У небе хмарачкі дзяяныя
Плылі, як гускі маладыя,
Чародкај белај над лугамі,
Над сьвежым лесам і палямі.
А гэты ветрык дурасьлівы
Траве зялёнај чэша грывы,
Ў садку жартуе зь верабінај,
Як голец-хлопец тој зь дзяўчынај,
І валасы зялёным стрэхам
У лесе гојдае ізь[13]) сьмехам.
А круглаверхія асіны
Разносяць нејкія навіны
І так гутораць, так сьмяюцца,
Што аж јіх лісьцікі трасуцца—
Відаць такая јіх урода.
Маці вярнулася з гарода.
— Алесь, сынок!.. јідуць кароўкі!
Бяжы хутчэј, рассунь засоўкі,
Каб не штаўхаліся дарма...
Ну, я лепш зьбегаю сама!
Куды ты, Юзік безгаловы!
З-за рэчкі цісну цца каровы.

(Далеј будзе).

Выдавец-Рэдактар: **Марыя Станкевічыха**. Друкарня С. Бэкера, Вільня, Субач 2.